# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 40 (762) БЕЛАСТОК 4 КАСТРЫЧНІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## Гаспадар з вёскі Канюшкі

Сярод глінястых узгоркаў Дуброўшчыны, далёка ад гаманлівых дарог і гарадоў раскінулася па хутарах вёска Канюшкі. Калісьці, яшчэ да першай сусветнай вайны, гэтую зямлю займаў нейкі памешчык.

— Тут, — Аляксандр Вайцюлік, гаспадар з вёскі Канюшкі крэсліць на гарызонце шырокі лук, — тут, — паўтарае, — знаходзіўся калісьці маёнтак Галякі. Гэта было даўно. Мне вось зараз амаль 60 год, а я ўжо не памятаю галякоўскага пана. Аднак яго зямлі да смерці не забуду. Нядрэнная яна, глінястая, па-цяперашняму — чацверты-пяты класы, крыху трэцяга. Уелася яна нашай сям'і ў душу, што горш не можна. Яшчэ мой дзед купіў у галякоўскім маёнтку 15 гектараў зямлі. І такім чынам улезлі мы ў даўгі на доўгія гады. Сплачваў іх дзед, сплачваў бацька ды яшчэ і мне засталося. Усё ішло на гэтыя даўгі аж да апошняй вайны. А зараз пасля яе прычапіліся банды. Прыходзілі ноччу і раўлі: «Пад сценку!» А пасля бралі ўсё, што папала пад рукі. Тут глуш, да горада далёка, ніякай абароны мы не мелі.

— Ой, пражылі мы бяды на сваім жыцці, ай, пражылі — уключаецца Вайцюлікава жонка. — Бывала, што і без куска хлеба сядзелі.

— А як цяпер? — пытаю, каб спыніць гэтыя зусім апраўданыя нараканні на мінулае.

— Што ж цяпер! — усклікае пані Марыся. — Цяпер добра, вядома, што добра. Хаця б у нас: дачка вывучылася на настаўніцу і працуе ў школе пад Элкам, адзін сын застаўся ў войску, ён цяпер капралям або плютановым і яшчэ вучыцца, магчыма на афіцэра выйдзе! А другі сын, Аляксандр, ён самы старэйшы сярод нашых дзяцей, застаўся на гаспадарцы.

— Пакінуў я яго гаспадарыць, бо і грошай на навуку не хапала, і ён у нас наймацнейшы, і любіць сялянскую працу. Пра яго ўжо ў газетах пісалі! Зараз ён на сенажаці, другі пакос травы збіраем. Калі аднак пачакаеце, дык ён прыедзе.

— А пакуль што грушкамі пачастуйцеся. — Пані Марыся, Вайцюліковая жонка, высыпала з фартуха на зялёную траву жоўта-чырвоныя, спелыя грушы. У іх заклята было сонца і асалода. Дык еў я гэтыя грушы і разглядаўся па хутары Аляксандра Вайцюліка. За агародам стаяла зялёная сцяна махоркі. Гэта «вірджынія». Тут на Дуброўшчыне бадай што ўсе гаспадары займаюцца вырошчваннем тытуню.

Працяг на стар. 4



## На ўлонні прыроды

Ад прыроды залежыць жыццё чалавечнасці. І калі мы свядома ці несвядома знішчаем прыроду — знішчаем не толькі прыгажосць, але і сябе.

Навуковыя доследы паказваюць, што большасць пустынных тэрыторый ўзнікла не па прычыне кліматычных змен, але ў выніку неразважнай дзейнасці чалавека. З захаваных да нашых часоў дакументаў вынікае, што зараз пустынныя тэрыторыі ў далёкім мінулым былі квітнеючымі абшарамі. Няўстойлівасць біялагічнай раўнавагі паўстала ў сувязі з празмернай эксплуатацыяй багаццяў прыроды.

Ахове прыроды прысвячаецца многа ўвагі ў пасляваенны перыяд у Польшчы. Першы з'езд Дзяржаўнай рады аховы прыроды адбыўся ўжо ў 1945 г. у Кракаве, але найважнейшыя пастановы ў справе аховы прыроды былі прыняты на з'ездзе, на нашай Беластоцкай зямлі, у Белавежы ў 1947 годзе. У 1952 годзе былі створаны Ваяводскія камітэты аховы прыроды, на чале якога на Беласточчыне стаў *праф. др Вітальд Славінскі.* Ад 1967 г. старшынёй Камітэта з'яўляецца *дацэнт др Васіль Чэчуга* — кіраўнік кафедры біялогіі АМБ.

Акруговае праўленне Лігі аховы прыроды стварылася позна, бо аж у 1954 г., у Саколцы і Сувалках. Нягледзячы на гэта зараз у радах гэтай арганізацыі на Беласточчыне знаходзіцца 48 тысяч членаў, г.зн. 4,1% агульнага ліку насельніцтва ваяводства, у той час, калі сярэдні паказчык у краіне дасягае 2,5%.

На Беласточчыне арганізаваны нацыянальны парк і 22 запаведнікі прыроды, якія займаюць 5.550 гектараў тэрыторыі, а таксама аб'яўлена шмат помнікаў жывой і неажыўленай прыроды.

Белавежскі нацыянальны парк — гэта бясцэнны аб'ект навуковых доследаў у галіне лясных і прыродазнаўчых навук. Цікавым з навуковага пункту гледжання з'яўляецца *запаведнік Ліпіны* ў Белавежскай пушчы. Займае ён плошчу 24,51 гектара, а яго асаблівасцю з'яўляецца спецыяльны гатунак дуба. *Запаведнік Горбач,* што ў Беластоцкім павеце, ахоплівае возера Горбач, а таксама акружаючыя яго нізкія і высокія тарфянікі, зарослыя дрыгвяным борам. Аховаю ахоплена тут 113.07 гектараў плошчы. Ну і, несумненна, *краявідны запаведнік Белавежскай пушчы,* з якім сутыкаемся ўпершыню, калі наведваем Гайнаўку і Белавежу.

Навошта пакідаем некранутымі такія абшары лесу? — запытаецца не адзін. Адной з найважнейшых прычын стварэння нацыянальных паркаў і запаведнікаў з'яўляецца патрэба захавання гэтых аб'ектаў для навукі, як тэрыторыі для вядзення рознага тыпу навуковых доследаў. Варта падкрэсліць, што да канца 1965 года толькі ў самым Белавежскім нацыянальным парку апрацавана і апублікавана 169 навуковых прац, а таксама 63 артыкулы і папу-

(Працяг на стар. 5)

*8 кастрычніка г.г. спаўняецца 60 год з дня смерці выдатнай польскай паэтэсы Марыі Канапніцкай.*

МАРЫЯ КАНАПНІЦКАЯ

## РОДНЫ ДОМ

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ў ночку — летавай парой —
Шаптаннем ліп варожыць, сном,
Слязу салодзіць цішынёй?

Ці любіш дом? сваю страху,
Што многа лет гняце ў маху,
Крывых варот нізкі парог,
Што лаской сцелецца да ног?

Ці любіш дом? аджыўчы пах
Пракосных зёл, наспелых ніў
І ружы цвет, што ў кальчуках
Сваю прыгажосць засяліў?

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што гул жывых сасон вярхоў,
І духаў стогн, і віхраў хор
Пералівае ў тваю кроў?

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ў часе бур, плакучых хмар,
Калі ў душу ударыць гром,
Нясе прытульны думкам чар?

Раз любіш ты, і ўсёй душой
Пад гэтай хочаш жыць страхой, —
Кут бацькаў сэрцам сцеражы,
І сэрца ў ім на век злажы.

Пераклаў Янка Купала

МАЛАНКА

Ужо ў наступным нумары пачнем друкаваць „ПАЛЕСКІХ РАБІНЗОНАЎ"!

## МОЙ РОДНЫ КУТ

*Вёска Старое Ляўкова.*

*Фота: Я. Цялушэцкі.*



# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 142




## ● ЛЕС ●

Я сюды зноў прыду,
Як лісты ападуць,
Калі восень аснуе валокны.
Бо я вельмі хачу
Іх шуршанне пачуць,
Дакрануцца галінак вільготных.

Набяжыць успамін
Тых страшлівых хвілін,
Калі полымя тут бушавала.
Дываном слаўся дым
Над абшарам лясным,
А нам жарам у вочы сыпала.

Не забыць мне таго,
Як тушылі яго,
Апякаючы рукі і ногі.
Пілавалі дубы
І ссякалі грабы,
Каб зрабіці прасеку-дарогу.

Усёй душой, як маглі,
Мы тых дрэў берaглі,
Хоць нас гнала агнёвай сцяною.
Вырывалі кусты,
Адграбалі лісты,
Палівалі балотнай вадою.

Ажываюць рады,
У якія тады
Маладыя садзілі мы дрэвы.
Цяжка глянуць было,
Бо пажару цяпло
Нам у сэрцы журбою гарэла.

Глянь цяпер — адраслі,
Патаўшчэлі ў камлі,
І красуюцца буйнай каронай,
Усіх прашу аб адным,
Каб ніколі яны
Не заснуліся дымнай заслонай.

*Л. Танкевіч*

### ПРА СЯБЕ

*Нарадзіўся 15 студзеня 1948 года ў вёсцы Жэляхова Шчэцінскага ваяводства.*

*Ад 1957 года пастаянна пражываю ля Коніна, Познанскага ваяводства. У сучасны момант з'яўляюся студэнтам Варшаўскага універсітэта.*

*Пішу вершам і прозай. Дэбютаваў творам «Давай ужо іншай», у 1967 годзе. Пасля друкаваўся я на старонках наступных часопісаў: «Zarzewie», «Nasz Klub», «Dziennik Ludowy», «Gazeta Poznańska», «Tygodnik Kulturalny», а верш «Дарога» перадавала «Polskie Radio».*

*Частка маіх вершаў надрукавана ў «Almanachu KKMP» у 1970 годзе.*

*Ад 1967 да 1969 года быў членам Познанскага аддзела KKMP, «Wiry», а з 1969 года з'яўляюся членам Мазавецкага цэнтра гэтага ж Клуба.*

*На Беласточчыну прыехаў першы раз як удзельнік фальклярыстычна-дыялекталагічнай экспедыцыі студэнтаў Варшаўскага універсітэта. Палюбіў адразу гэты раён, палюбіў прыгажосць беластоцкай вёскі, палюбіў людзей, у ёй працуючых.*

*У будучыні іменна гэтым людзям хачу прысвяціць сваю творчасць, пра іх і іх праблемы хачу пісаць так у паэзіі, як і ў прозе.*

*Тадэуш Анішэўскі*



*Тадэуш Анішэўскі*

## ● АД'ЕДЗЕМ . . . ●

ад'едзем з галавой узнятай ўгору
як належна адструганым майкам
з тварамі бруднымі
бурамі
ветрам
жыццём
да птушкі падобнымі
якая з гнязда ў гняздо пералётвае
каб сказаць
што яна... у сябе

а мы былі ў сябе
у песні
што старая бабулька наспеўвае пад страхой
здзярэвянеўшай салам
у аганьку
у вачах
ва ўсім, што жыве на губах
і ў тым
што на Беларускай Зямлі дрыжыць і змагаецца

былі ў сябе
як жа радасна нам было
калі словы агнём гарэлі
агонь словамі радзіўся
калі ўсё так кружылася
у вачах
у песні
у чалавеку
калі ўсё кружылася так
па ўсёй зямлі

калі ўсё
усё ціха плакала
а мы
што ж мы
звычайныя пералётныя спяваючыя птушкі
ой, не такія то птушкі
не такія
урэзаць крылы наступіў час
выкінуць
і... ціха пахіляючыся над сталом і крэслам
заспяваць
нарысаваць і сказаць
ой, не такія то птушкі
не такія
што адлятаюць без крылаў

*Фальклярыстычна-дыялекталагічны лагер студэнтаў русістыкі Варшаўскага універсітэта*

*Клейнікі, 18 ліпеня 1970 года*

*Пер. М. Врублеўскі*

## ПАВАРОТЫ

Мая чалавечнасць
ад мяне
да людзей
натрапляе заўсёды
на скрыжаванні людскіх
інстынктаў
яны б'юць у вочы
з усіх бакоў
сікаўкаю святла
слепнеш ад яснасці
выбіраеш
як вярнуцца
паўтарыць пачатак.

*Яша Бурш*



*

*Салавей да світання*
*Залівaецца песняй,*
*Лазовыя зараслі*
*Пазалочвае месяц.*

*На зялёных лахінах*
*Кроплі роснае ртуці,*
*Папраўляе дзяўчына*
*Дужкі срэбных завушніц.*

*І маўчым, бо каханне*
*Уліло ў нас задуму,*
*Салавей на світанні*
*Залівaецца сумам.*

*Уладзімір Гайдук*

## ● АЛЕГОРЫЯ ●

*Асеннія хмары так жаласна плачуць*
*І слёзы рассеялі ў змрочны цень,*
*А з кожнай кроплі расце мора смутку,*
*У якім утапіўся ўчарашні дзень.*

*Бывае, што ходзіш у шчасці,*
*як ў моры,*
*Не ведаўшы сам, дзе глыбей,*
*дзе плыцей...*
*І так, нечакана, падняўшыся ўгору,*
*Захлынешся хваляй*
*Ад ног — звыш вачэй.*

*Дождж і час зліліся ў адно*
*і прасяклі сэрца, як зямлю,*
*да самай глыбі,*
*да самага ядра — насення.*

*Светласць дзён адышла ўжо даўно...*
*Засталіся з дрэў карэнні.*
*Хоць хмары даўно расплыліся*
*па свеце,*
*Хоць мора глыбокім не страшыць*
*ўжо дном,*
*Усё ж такі вецер ў разгубленым*
*свеце*
*Калоціць лісцё, сыпле ў вочы пяском.*

*Прайшла завіруха, узрушыла сэрцы,*
*І плён свой амбітны сабрала яна,*
*І многае, многае вырвана смерці,*
*Каб зноў палілася жывая вада.*

*Яна палілася ў азёры, глыбока,*
*Патокамі з гор, ручаямі ў лясах,*
*І стала ўсё блізка, што было далёка,*
*Усім на вачах і на яве, не ў снах.*

*Асеннія хмары зноў жаласна*
*плачуць,*
*Зноў слёзы рассеялі ў змрочны*
*цень*
*Ды што гэта? — чуеш усё нейк іначай,*
*Інакш распачаўся і кончыўся*
*дзень.*

*Зося Стаськевіч*

УЛАДЗІСЛАЎ ДВАРАКОЎСКІ




Была ўжо поўнач, калі сястра прынесла лякарства. Паставіўшы яго перад хворым на стале і сказаўшы «добрай ночы», адыйшла ціха, быццам нейкая з'ява. За ёю ўслед пацягнуўся моцны запах карболю і белы яе фартух знікнуў за дзвярыма. Хутка на калідоры пагасла святло, і ў залу, дзе ляжаў Максім, уваліўся густы чорны змрок шпітальнай ночы.

Максім ляжаў і тупа глядзеў у гэтую цемру, стараючыся пераглядзець яе і адрозніць зарысы акружаючых яго прадметаў. Спярша ён нічога не мог адрозніць, але калі вочы прывыклі да цемры, ён убачыў пустыя ложкі, стаяўшыя побач.

Максім уздрыгануўся, ды нейкі жах праляцеў з галавы да пят, прыводзячы на думку ўчарашні дзень і ўсе падзеі, якія тут здарыліся на працягу некалькіх тыдняў яго побыту ў шпіталі. Вось на гэтым ложку ля акна ляжаў малады чалавек, можа ўсяго дваццаць год. Яго парэзалі на забаве, і трэба было рабіць аперацыю. Усё было ўжо надта добра, хворы адчуваў сябе лепш, калі раптам паднялася тэмпература. Ён крычаў, кідаўся на ложку, прасіў помачы, прызываў нейкую Олю. Дактары рабілі, што маглі, далі кіслaрод. Стала лягчэй. Уночы зусім супакоіўся і заснуў. А на досвітку вынеслі яго ў трупярню, ахутанага ў прасціню.

На другім ложку ляжаў старычок. Быў ён адзін на свеце. Радня выраклася і не хацела прызнавацца да яго. Але ён не скардзіўся, не крычаў, быў ціхі. Некалькі разоў застагнаў і таксама заснуў. Але быў страшны. Адчыненыя вочы глядзелі неяк коса, з нямой іранічнай пагрозай. Яго вынеслі на досвітку. Траіх з гэтай залы выпісалі дахаты на свята. Па іх прыехалі сыны і дочкі. Колькі было радасці. Нават не дазволілі ім ісці пехатой. На руках вынеслі да таксі. Максім чуў, як шафёр запускаў матор і тады... быццам у нутры нешта абарвалася, слёзы пацяклі са старэчых вачэй, бы летні дождж.

Максім застаўся адзін. Яго адзіноцтва выклікала жудасны ўспамін жыцця, якое пракацілася бы маланка. І хаця ён не хацеў успамінаць таго, у вушах чуў першы крык свайго нованароджанага дзіцяці, адчуваў радасць, успамінаў непраспаныя ночы. Было цяжка. Але надзея трымала на духу. Сын падрасце, паможа, лягчэй будзе. Прыгожыя мары лопнулі, як мыльны пузыр, і зноў чуўся той з'едлівы, змяіны сык «запішы, запішы».

А што ж тут запісваць. Жонка памерла ўжо даўно. Быў адзін, не жаніўся другі раз. Дзяцей падгадаваць трэба было. А тут вось табе і выгадаваў. Нават для вока ніхто не адведае. Ляжы, стары дурню, памрэш хутчэй. Праўду кажучы, братаў сын прыходзіць, але той здалёка, жыве аж у Шчэціне. Добры хлапец, учора прынёс ежы, ды яшчэ і чарку...

Ціхенька скрыпнулі дзверы, быццам нехта ўвайшоў у залу. Максім уздрыгнуў. Дрыжачаю рукою запаліў запалку, як быццам бы прыкурваючы папяросу. Жоўтае полымя бледнай плямай упала на падушку. З перапалоху ён сеў на ложку, разглядаючыся навокал. Нехта невідочны хадзіў па зале. Максім нікога не бачыў, але адчуваў тут нейкі чужы дух.

Ён голасна крыкнуў і кінуўся да дзвярэй. «Уцякаць, — мільганула думка, — бліжэй да людзей, уцякаць».

У калідоры не было нікога, усё спала, толькі ў куце, дзе спала дзяжурная сястра, гарэла настольная лямпка. Ён завагаўся, але падыйшоў ціха, каб разбудзіць яе. Сястра спала, звінуўшыся ў клубок, як кошка. Яе маладыя калені былі надта адкрыты, і Максім з агідай адвярнуўся. Не ведаў і сам, што далей рабіць. Раптам нешта нядобрае кальнула яго думку, і ён з зацікаўленнем прыглядзеўся да сястры. Твар гэтай жанчыны здаваўся яму ненатуральны — быў белы як снег.

**(Працяг на стар. 4)**

(Працяг са стар. 3)




— Уцякаць! — зароў ён на цэлае горла, ды кінуўся да дзвярэй. Раптам запалілася ўсюды святло, пачуліся галасы, мітусня. Нехта бег за ім. Але Максім ужо дабег да дзвярэй і ўсёй сілай наваліўся на іх. Яны з лоскатам адчыніліся, і ён праваліўся ў глыбокае дно ночы, быццам у прорву, трацячы прытомнасць.

*

Калёсы стукалі па рэльсах сваё манатоннае ціх-тах, ціх-тах, ціх-тах, выклікаючы непрыемны настрой, ды імчаліся далей у снежную раўніну. Вагон патрэскваў, здавалася, што яшчэ крыху, і ён рассыплецца, а ашалелыя калёсы паімчацца далей.

Федзя сядзеў ля акна і соннымі вачыма глядзеў на дамы, дрэвы, платы, ахутаныя зімовай шатай. Пагдядаў ды стараўся думаць аб чым-небудзь, але ў галаве было пуста, да таго яшчэ яна балела пасля ўчарашняй гарэлкі, бо здорава папілі сабе ўчора з сябрамі. Хацелі яшчэ сёння піць, але ён даведаўся, што бацька мае намер запісаць гаспадарку дзяржаве. Якім правам? Ёсць сын, які хоча працаваць на зямлі, толькі што стары дурань не хоча яму яе аддаць. Трэба пагаварыць сур'ёзна, а то мо і сапраўды здурэў. А сваёй дарогай, нехта туды ездзіць ды бунтуе старога. Учора пры гарэлцы Якуб таямніча міргануў:

— Лепш змяніся ў сваіх адносінах да старога, бо ўмыешся ўсяго — глядзі.

Пэўна, нешта ведае. Праўду кажучы, адносіны не былі найлепшыя. Старому ўсяго было мала, ўсё бурчэў. А то марнуеш прылады, то не ў час робіш, то смачна ясі. Хай робіць, калі хоча камандаваць. Я на яго працаваць не буду, не тыя часы. Нават Манька заўсёды папракала: — Глядзі дурню, убачыш, што стары выкіруе цябе, не можаш прыцiснуць, каб гаспадарку запісаў, у хаце б сядзеў, хутчэй здох бы, а то ў бальніцу, бы нейкага пана завезлі, цікава, хто будзе плаціць?

Ды як яго прыцiснеш? Заб'еш? Трэба вось ісці ў бальніцу, а то людзі гаварылі б, што мучым старога. Скажу яму проста — не дурэй, запішы, буду глядзець.

Цягнік затрымаўся на станцыі. Федзя няпэўным крокам накіраваўся ў буфет. Хацелася піць, ды і так, для адвагі ён купіў дзве бутэлькі піва і, папіваючы, тупа глядзеў навокал. Не спяшаўся.

Нехта стукнуў па плячы, аж забалела. Федзя перапуджана агляну ўся. Перад ім стаяў Эдэк — сын бацькавага брата. Але што ён тут робіць? У бацькі быў? Немагчыма. Нядобрае прадчуванне кальнула ў сэрца.

— Папіваем, — сказаў той, — часамі трэба не толькі для самой тугі.

Федзя неяк збянтэжыўся, ды варожа глянуў таму ў вочы. Не надта яны любілі адзін другога. Эдэк заўсёды насміхаўся з яго. Лянівы, толькі каб смачна з'есці, гаспадаркі не глядзіць.

— Чуваць, бацька ў шпіталі, прыехаў адведаць, але, пэўна, яшчэ не пускаюць туды, — схлусіў ён.

Эдэк нічога не сказаў, толькі мімаходам выцер вочы, ды завярнуўся, каб ісці. Але Федзька схапіў яго за рукаў.

— Ты куды? Пэўна, ведаеш нешта — гавары.

— Твой бацька памёр. Перад смерцю зрабіў тэстамент, але на каго запісаў, не ведаю.

— Хлусіш, сабака, ты ведаеш, — зароў Федзька і кінуўся ў дзверы, а бутэлькі з трэскам разляцеліся на падлозе. Ускочыўшы, як вар'ят, у бальніцу, ён пытаўся, каму бацька запісаў гаспадарку, а не даведаўшыся нічога, кінуўся на вуліцу шукаць сваяка. Але нідзе яго больш не сустрэў, а так хацеў злавіць яго за каўнер і выпусціць сваю набрылую горыч, ды тую іронію лёсу, з якой не мог пагадзіцца.

*Уладзіслаў Дваракоўскі*

Добрага гаспадара найхутчэй пазнаеш па стане яго інвентарскіх будынкаў. У Беластоцкім ваяводстве маем 184 тысячы 200 індывідуальных гаспадарак.

На сялянскім панадворку найчасцей сустракаем: пуні, нейкі хлеў, свіран, а ў больш заможных гаспадароў знойдзем яшчэ кароўнік, асобную паветку на дровы і яшчэ там нейкую будыніну.

У рамках падрыхтоўкі да ўсеагульнага перапісу насельніцтва і маёмасці Польскай Народнай Рэспублікі, які мае быць праведзены пад канец гэтага года, Ваяводскае перапісное бюро правяло на Беласточчыне перапіс інвентарскіх будынкаў. Вось і аказалася, што сяляне Беластоцкага ваяводства ў чэрвені 1970 года мелі 198 тысяч 300 хлявоў і кароўнікаў.

Параўнайце, калі ласка, гэтыя лікі: *184 тысячы гаспадарак і 198 тысяч інвентарскіх будынкаў, прызначаных для жывёлагадоўлі.* З гэтага параўнанні

## ПРА ХЛЯВЫ, КОНЕЙ І АВЕЧАК . . .

вынікае, што на аднаго гаспадара прыпадае на Беласточчыне ледзь адзін інвентарскі будынак — з невялікім дадаткам. Гэта ў сярэднім. Значыць, могуць быць гаспадары, якія маюць па 2 хлявы, але тады мусяць быць уласнікі гаспадарак, якія не маюць ні хлява, ні абары.

Няма асноў, каб цешыцца з гэтага стану. Проста вёскі Беласточчыны патрабуюць яшчэ многа будаваць. На пабудову аднак патрэбны грошы. Грошы ў сваю чаргу можна мець, прадаўшы малако, кантрактуючы свіней, цялят, дастаўляючы воўну. Для гэтага патрэбны добрыя, прасторныя, абсталяваныя па-сучаснаму інвентарскія будынкі. Вось і круг замкнуўся, бы зачараваны.

Найбольш у гэтай галіне адстаюць Гайнаўскі, Беластоцкі і Сямяціцкі паветы.

Калі ў ваяводстве ў сярэднім на адну гаспадарку прыпадае амаль 73 кв. метраў плошчы ў інвентарскіх будынках, дык на Гайнаўшчыне — амаль на 20 кв. метраў менш, у Беластоцкім павеце — менш на 16 кв. метраў, у Сямяціцкім — на звыш 12. У Эльцкім і Алецкім паветах — для параўнання — гэты паказчык складае больш-менш 104 кв. метры. Гэты стан пацвярджаюць яшчэ і іншыя падлікі, напрыклад, велічыня інвентарскіх будынкаў, прыпадаючых на 1 гектар зямлі.

Падлікі Ваяводскага перапіснага бюро даюць нам адказ яшчэ на адно пытанне: што гаспадары трымаюць у гэтых хлявах і кароўніках? Аказваецца, што нашы сяляне ўсё яшчэ вельмі любяць коней, бо гэтых "аўсяных" трактараў усё яшчэ больш, як гаспадарок (аж на звыш 20 тысяч штук). Апрача гэтага, на аднаго гаспадара ў нашым ваяводстве выпадае па 3 кароўкі (з невялікім дадаткам), па 5—6 свіней і мала, вельмі мала авечак — нават не хапае іх, каб абдзяліць усіх гаспадароў па 2 штукі. А гэта ж вельмі карысная жывёла: і воўна, і мяса, і такая каштоўная (ды модная!) бараняя шкура. І з'есць авечка абы што, і прапасецца летам на найгоршым пастэўніку.

Спецыялісты з Ваяводскага перапіснага бюро канчаюць свае вывады наступным сказам:

*«Удзел паасобных паветаў у інвентарскай паверхні адпавядае ў асноўным іх удзелу у агульнай колькасці гаспадарскай жывёлы».*

За гэтым, не вельмі ясным, у канцылярскім стылі пабудаваным сказам скрываецца важны, на жаль, невясёлы змест. Бо зноў: на Гайнаўшчыне найменш жывёлы... Вось і першае звяно чарговага замкнутага круга. (вр)




— Як вам аплачваецца кантрактацыя тытуню? — пытаю гаспадара.

— Аплачваецца яна то даволі высока. У гэтым годзе закантрактавалі мы 30 араў. Спадзяемся, што атрымаем нейкіх 30—40 тысяч злотых. Аднак колькі працы пры ім! Беспярапынку штосьці трэба рабіць. А калі выпадзе град, або тытунёвая зараза, чалавек зусім застаецца без грошай. Вельмі ж капрызная гэта расліна.

— Дык скажыце, калі ласка, з чаго цяпер, па-вашаму, гаспадар можа мець найбольш пэўны прыбытак?

— Я сваю гаспадарку пераставіў на жывёлагадоўлю, — сцвярджае селянін, а яго жонка дадае:

— Мы маем сем кароў. Кожны год кантрактуем бычкоў і ялоўкі. У мінулым годзе здалі мы іх аж шэсць, а ў гэтым трымаем яшчэ чатыры.

— Чым вы іх корміце, дзе пасвіце?

— Наш сын абсталяваў прыкладную пашу. Вунь там, — гаспадар паказвае выган, пагароджаны на дзесяціаравыя дзялянкі. — Даўней нашы каровы хадзілі па ўсёй гэтай плошчы, пастаянна трэба было за імі сачыць і бегаць. А я інвалід, зроду кульгавы. Дык сын у мінулым годзе...

— Яго наш заатэхнік, Ян Крыштафаровіч, падгаварыў, — уключаецца гаспадыня. — Раней хапала каровам травы ледзь да Пятра і Паўла, а цяпер вось і зараз яшчэ іх карміць не трэба і без пастуха абыходзяцца, пасвіць іх электрычны пастух.

— Адно толькі дзіва было, — смяецца Аляксандр Вайцюлік. — Падключылі мы гэтую электрычную агароджу, загналі туды кароў і глядзімо, што атрымаецца. Дрот тоненькі, гладкі, карова, думаю, напрэ, дык і дрот прарвецца. А карова, як карова, любіць пачухацца, садзіць лоб пад гэты дрот і... раптам назад. Значыць, «электрыка» яе ўкусіла. Так было некалькі дзён. Мы глядзелі і смяяліся, суседзі прыходзілі і таксама дзіваваліся, а пасля нашы красулі і бычкі так прывучыліся да гэтай загарадзі, што ўжо нават не дакраналіся да яе. Можна было зусім не ўключаць электрычнасці.

Гэтая паша ў Вайцюлікоў разбіта на 13 дзялянак. Калі жывёла выесць траву на адной, яе пераганяюць на другую. Пакуль дойдзе да апошняй, у першай адрасце ўжо сакавітая трава. А расце яна шпарка, бо гаспадар не пашкадаваў грошай на штучныя ўгнаенні. Калі б пералічыць на адзін гектар, дык на гэтую пашу высыпаў ён 450 кг хімічна чыстага рэчыва калію, фосфару і азоту. Гэта вельмі высокая доза. Аднак варта. У Вайцюлікоў хапіла зялёнай травы на ўсё лета, ды яшчэ асталося яе на поўны сілас, а што не змясцілася ў сіласе, яны высушылі на сена.

*М. Нурэцкі*



*У НАШЫХ ЛІЦЭЯХ. На занятках гуртка беларускай мовы ў бельскім ліцэі. Тэма: «Гаворкі Бельскага павета». Вядзе заняткі мгр Зінаіда Красоўская.*

*Фота Цаф — Сянько*

## ТУРЫСТЫЧНЫ СЕЗОН У БЕЛАРУСКІМ ЭНТАГРАФІЧНЫМ МУЗЕІ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Беларускі рэгіянальны этнаграфічны музей у Белавежы карыстаецца ўсё большай папулярнасцю сярод турыстаў. Асабліва ўзрасла тут колькасць наведвальнікаў у гэтым годзе. Толькі ад красавіка да канца жніўня ў музеі пабывала амаль 12 тысяч чалавек, у тым ліку каля 1,5 тысячы замежных турыстаў (з СССР, ГДР, іншых краін народнай дэмакратыі, заходнееўрапейскіх краін, з Амерыкі і нават з краін так званага Трэцяга Свету). І трэба падкрэсліць пры гэтым, што адбывалася ўсё гэта ў дрэнных атмасферных умовах, у некарысным турыстычным сезоне ў Белавежы. Такім чынам, з году ў год ўсё больш турыстаў знаёміцца з нашым музеем. Тут ёсць цікавая і карысная выстаўка, якая дае магчымасць паглыбіць свае веды аб народнай культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, і таму на працягу чатырох год сваёй дзейнасці музей стаў вядомы не толькі ў Беластоцкім ваяводстве, але і ва ўсёй Польшчы.

У апошні час справе папулярызацыі нашага музея ўлады і розныя ўстановы Гайнаўскага павета прыдаюць вялікае значэнне. Павятовы камітэт ПАРП і павятовы камітэт фізічнай культуры і турызму пры прэзідыуме ПРН у Гайнаўцы 29 мая 1970 г. і I чэрвеня 1970 далі пісьмовыя ўказанні, якія датычаць спосабу папулярызацыі багатых і каштоўных экспанатаў, сабраных у нашым музеі. Вось асноўны іх змест:

1. У турыстычнай рэкламе, якую вядзе ПТТК, памясціць інфармацыю аб Беларускім рэгіянальным этнаграфічным музеі ў Белавежы.

2. Перашколіць экскурсаводаў ПТТК у Белавежы ў галіне праблематыкі музея.

3. Аддзел ПТТК у Гайнаўцы абавязаўся звярнуць большую ўвагу на наш музей, каб шырэй папулярызаваць яго сярод экскурсій, якія едуць у Белавежу.

4. Цэнтр турыстычнага руху ў Белавежы абавязаўся ўключыць музей у планы ўсіх экскурсій па Белавежскай пушчы.

Супрацоўніцтва нашага музея з ПТТК, а асабліва з цэнтрам турыстычнага руху ў Белавежы, прынесла выдатныя вынікі. Вялікая заслуга ў гэтым кіраўніка цэнтра турыстычнага руху ў Белавежы Андрэя Дацкевіча і яго супрацоўнікаў, якія шмат зрабілі для папулярызацыі музея сярод экскурсантаў і паасобных турыстаў. Трэба падзякаваць многім экскурсаводам, якія часта ўмелі выкраіць з экскурсіі адпаведную колькасць часу, каб даць магчымасць людзям наведаць наш музей.

Вынікі супрацоўніцтва і агульных намаганняў мы асабліва добра адчуем, калі супаставім колькасць наведвальнікаў ў гэтым годзе з мінулымі гадамі. Калі толькі ад красавіка да жніўня гэтага года наведала музей 12 тысяч чалавек, дык у папярэднія гады музей наведвала штогод 3,5—5 тысяч чалавек. У маі гэтага года, гэта значыць, яшчэ перад наладжаннем цеснага супрацоўніцтва з цэнтрам турыстычнага руху ў Белавежы, у нас было 728 наведвальнікаў. У чэрвені, пасля наладжання цеснага супрацоўніцтва, гэта лічба павялічылася да 3414 чалавек, нягледзячы на тое, што ў папярэднія гады розніца паміж маем і чэрвенем была нязначная. У ліпені гэтага года наш музей наведала 4516 чалавек, а ў жніўні — каля 3400 чалавек. У папярэднія гады ў летнія месяцы мы мелі ў сярэднім 1200—1800 экскурсантаў. Супрацоўніцтва музея з установамі, якія абслугоўваюць турыстычны рух у Белавежы, працягваецца далей. Мы падтрымліваем з імі пастаянную сувязь і выпрацоўваем новыя метады працы, пры дапамозе якіх мы зможам поўнасцю выканаць указанні, мэтай якіх з'яўляецца тое, каб увесь турыстычны рух у Белавежы накіраваць і ў наш музей.

# ПІ, БРАЦЕ, „НА ЗДАРОЎЕ"!

Трэба скончыць з самой мовай пра зло. Трэба зло паказваць, каб людзі яго ведалі і пазбягалі. Трэба злу выдаць бескампрамісную барацьбу. Не толькі МО, не толькі ОРМО, але разам з імі ўсяму грамадству трэба стаць на барацьбу з хуліганствам, п'янствам, нішчэннем і кражай грамадскага дабра. Кожны светлы і здаровы духам грамадзянін будзе ўважлівы і будзе рэагаваць, калі спаткаецца з людской абыякавасцю.

У такім духу праходзіла пэўная нарада, арганізаваная ваяводскай камісіяй прафсаюзаў. Прафсаюзы накрэслілі шырокую праграму культурна-выхаваўчай дзейнасці ў ваяводстве, барацьбы з усім, што брыдкае і шкоднае ў нашым жыцці.

Адной з такіх дрэнных з'яў з'яўляецца п'янства. Колькі зла і крыўды нясе ў сабе гэтае слова! Будзіць чуйнасць — гаворым. Для гэтага сёння падаем цікавыя дадзеныя (прыводзім за ўспомненай нарадай) аб візітах у... «Ізбе вытшэзвень» у Беластоку за адзін толькі месяц жнівень.

Пакуль паднімеш поўны кілішак іскрыстай вадкасці і скажаш суседу: «на здароўе», прачытай і задумайся.

За адзін месяц жнівень у беластоцкай выцверазілаўцы было 259 асоб-пацыентаў. З іх толькі 48 чалавек трапіла сюды першы раз (можа прыпадкова, здарылася, кожнаму здараецца). Рэшта — 211 чалавек — былі не ўпершыню, а па некалькі разоў. 28 чалавек былі больш як 10 разоў. Ёсць «сталыя» госці, так сказаць, ветэраны выцверазілаўкі, якія трапілі сюды 23 раз, 26 раз, 38 раз! Беспрытомна ўпіваюцца часцей людзі старэйшыя 25-ці год. Да 25-ці год ў жніўні было 27 чалавек, але, гляньце, хто сярод іх: страшна сказаць — 3 студэнты, 2 вучні сярэдніх школ і 1 в у ч а н ь п а ч а т к о в а й ш к о л ы.

Жанчын трапіла 5 чалавек.

Сярод 259 чалавек за жнівень было 160 рабочых і працаўнікоў устаноў. 99 чалавек — непрацуючыя, а сярод іх 25 чалавек — пенсіянеры.

Найбольш «вабіць» выцверазілаўка рабочых будаўніцтва, потым ідуць працаўнікі спулдзельчасці, потым металургі, потым камунальныя, дарожнікі.

Узрост, як ужо сказана было, найчасцей пасля 25-ці год, значыць з рэдкім выключэннем, людзі жанатыя, бацькі дзяцей. Пасля 40-коўкі лік змяншаецца. І тут новы вывад — людзі заліваюцца, запіваюць свой залаты, найлепшы, найбольш творчы век. Ці не шкада? Калегіі і суды прымаюць вострыя меры. Але ізноў: ніякая кара не паможа, калі сам чалавек не зразумее і не загадае сабе. Ворага трэба пазнаць самому і хацець яго знішчыць.

(вл)

---

І ў тым месцы музей хацеў бы падзякаваць павятовым уладам Гайнаўшчыны і ўстановам, якія займаюцца турызмам, за дапамогу, якую мы атрымалі ад іх у гэтай справе.

У Кнізе запісаў музея турысты пакінулі прыемныя словы, якія сведчаць аб іх зацікаўленні этнаграфічнай праблематыкай паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. Захапляюцца яны багаццем і шматграннасцю мясцовай народнай культуры, падкрэсліваюць неабходнасць стварэння падобных музеяў і іх далейшага развіцця. Некаторыя з іх, як напрыклад, археолаг дац. др Анна Садурская з Варшаўскага універсітэта, звяртаюць увагу на надзвычай вялікі збор экспанатаў у параўнанні з даволі скромнымі ўмовамі працы музея. Гэткія погляды цешаць нас тым больш, што экспануецца ў нас усяго каля 1/4 усіх экспанатаў, не паказваем жа нават усіх аддзелаў, а з іншых паказваем не ўсё. Нам абсалютна не хапае месца, каб паказаць усё, што мы маем. Наведвальнікі часта шчыра шкадуюць, што не могуць больш дакладна пазнаёміцца з народнай культурай беларусаў, і жадаюць, каб музей як найхутчэй атрымаў новае, адпаведнае памяшканне, дзе мог бы паказаць усе свае экспанаты. Многія прапануюць таксама арганізаваць «народную ізбу» і скансен. Аб гэтых прапановах ужо гаварылася ў ГП БГКТ. Трэба толькі пастарацца, каб як найхутчэй пачаць іх выконваць.

*Кіраўнік музея мгр В. ГАЦУТА*

# ДАРОЖНАЕ ЖНІВО

Кожны дзень друк, радыё і тэлебачанне інфармуюць аб дарожных выпадках. Кожны дзень гінуць людзі або застаюцца пакалечанымі, дарожныя выпадкі наносяць матэрыяльныя шкоды.

Як выглядае справа ў Беластоцкім ваяводстве, сказаў нашаму прадстаўніку капітан Аляксандр Ходзька з Ваяводскай камэнды МО.

На працягу сямі месяцаў гэтага года органы міліцыі зарэгістравалі 361 дарожны выпадак, што абазначае на 56 больш, чым за аналагічны перыяд 1969 года. Трэба ведаць, што міліцыя рэгіструе толькі тыя дарожныя выпадкі, дзе былі ахвяры ў людзях, або быў пашкоджаны транспарт на больш чым 1000 зл. За вышэй указаны перыяд на дарогах Беласточчыны было забіта 40 чалавек (на 9 больш, чым у мінулым годзе), паранена 334 чалавека (больш на 37), папсавана сродкаў транспарту 262 (больш на 73).

## ПРЫЧЫНЫ

Якія ж прычыны дарожнага жніва на Беласточчыне? Іх шмат. Аднак да асноўных трэба залічыць вельмі вялікую хуткасць, калі шафёр не можа запанаваць над машынаю і тады або з'язджае ў роў, наязджаючы на стоўб ці дрэва, або наязджае на іншы сродак транспарту. Тут агульнага рэцэпту няма, шафёр павінен ехаць з такой хуткасцю, якая для яго індывідуальна з'яўляецца бяспечнай, г. зн., што ён у кожны момант можа панаваць над машынай. Такіх выпадкаў было 48. На 5 выпадкаў менш зрабілі тыя шафёры, якія вымусілі першынство (у асноўным на скрыжаваннях вуліц). Несумненна, вельмі многа, бо аж 78 выпадкаў, выклікалі пешаходы, якія не толькі не ведаюць правіл дарожнага руху, але часта лёгкадумна лезуць пад калёсы самаходаў. Асабліва часта гэта дзеецца на астаноўках аўтобусаў, дзе пешыя часта, не ўпэўніўшыся, ці дарога пустая, проста з-за аўтобуса пападаюць пад калёсы самаходаў. Пешыя павінны памятаць, што шаша ці вуліца — гэта дарога перш за ўсё для механічных сродкаў транспарту.

Але Беластоцкае ваяводства характарызуецца тым, што за рулі самаходаў і матацыклаў, за лейцы каня бяруцца часта людзі нецвярозыя. Хай сведчаць лікі: п'яныя выклікалі за 7 месяцаў аж 60 дарожных выпадкаў. За гэты ж перыяд МО і дарожная служба выключыла аж 3.302 чалавек з дарожнага руху, што абазначае павелічэнне ў параўнанні з мінулым годам на 806 чалавек. А калі б не міліцыя? Многія з іх маглі б павялічыць колькасць забітых, параненых, колькасць пашкоджаных самаходаў, матацыклаў, фурманак і г.д.

## ШТО РОБІЦЬ МІЛІЦЫЯ?

Міліцыя, а асабліва дарожная служба руху разам з іншымі арганізацыямі вядзе вялікую прафілактычную кампанію. Але як вядома, міліцыя — гэта перш за ўсё сродкі рэпрэсіі. Якія ж вынікі? Да канца ліпеня г.г. міліцыя выкрыла 27.026 дарожных правіненняў. Пакарала 18.865 чалавек на суму 1.108.350 зл., 1898 чалавек скіравала ў карна-адміністрацыйныя калегіі (датычыць паўгоддзя г.г.), за тэхнічныя недахопы адабрана 1772 рэгістрацыйныя карты, а 267 чалавек адаслана на паўторны шафёрскі экзамен.

А. К.

Пачатак на стар. 1

# НА ЎЛОННІ ПРЫРОДЫ

лярна-навуковыя працы. Паркі і запаведнікі адыгрываюць вялікую ролю ў навучанні моладзі.

Помнікі прыроды — гэта старыя дрэвы незвычайных размераў, скалы і т.п. На Беласточчыне маецца іх больш чым 180, а да найцікавейшых адносяцца *дубы ў Белавежскай пушчы*, аб'ём якіх па 640 см кожны, а таксама *скала ў вёсцы Валілы* ў Беластоцкім павеце, аб'ём якой 19 метраў.

Несумненна, што адным з найбольшых дасягненняў ахоўніцкай працы на Беласточчыне ў 25-годдзі з'яўляецца факт, што ад некалькіх штук зубра, лося ці бабра зараз маем па некалькі соцень гэтых рэдкіх гатункаў звяроў.

Поўнае зразуменне ідэі аховы прыроды выказваюць улады Беластоцкага ваяводства. У ліпені мінулага года адбылося выязное пасяджэнне сесіі ВРН у Аўгустове. Тут прынята шмат пастаноў адносна стварэння новых паркаў і запаведнікаў, адносна выдзялення палос цішыні на азёрах, адносна ўтрымання натуральнага фрагмента ракі Нарва, Чорная Ганча, Раўспуда і Лазная Струга.

Каб гэтая праграма стала рэчаіснасцю, патрэбны далейшыя намаганні актыву. А выкананне гэтай праграмы будзе ізноў велізарным укладам Беласточчыны для будучых пакаленняў, захоўваючы для іх непаўторныя краязнаўчыя вартасці нашага раёна.

*А. Карпюк*

*Фота Цаф — Сянько*

---



*Гаспадар дажынак складае падзяку за хлеб — сімвал плёнаў працы гайнаўскай вёскі. (Злева М. Самоцік, А. Лазоўскі, М. Адамец, Эдвард Маркевіч — сакратар ПК ЗСЛь).*



*Старасціна Л. Галёнка і стараста В. Анішчук.*



*Гучыць дажынковы сігнал.*



*Дажынковы карагод.*



*Гледачы дажынковых абрадаў.*

# СВЯТА ГАЙНАЎСКАЙ ВЁСКІ

Нядзеля, 13 верасня. Спартыўны стадыён, што ў пушчы ля самай Гайнаўкі, запоўнены людзьмі. Сёння гайнаўская вёска святкуе павятовыя дажынкі. На ганаровай трыбуне займаюць месцы: гаспадар дажынак I сакратар павятовага камітэта ПАРП Аляксей Лазоўскі, старшыня прэзідыума ПРН Мікалай Самоцік, члены экзекутывы і кіраўніцтва ЗСЛь, перадавыя гаспадары. На траве стадыёна, як замершыя, у народных уборах, мастацкія калектывы.



*Цэнтральны павятовы вянок.*

Дажынкі адкрывае старшыня павятовага саюза сельгасгурткоў, пасол у Сейм Міхал Адамец. Перад трыбунай, як з-пад зямлі, вырастаюць трубачы. Гучыць дажынковы сігнал, а пасля песні; адбываюцца танцы жней, у руках якіх плады Гайнаўскай зямлі. Раптам на стадыёне ўсё ўціхамірылася. Расступіўся танцавальны карагод. Загучала песня «Плён нясём, плён». Павятовы вянок, а за ім ад паасобных ГРН памалу і ўрачыста набліжаюцца да трыбуны. Вянкі пакладзены перад гаспадаром. Але вось наступная мелодыя, і на стадыёне паявіліся старасціна дажынак Лідзія Галёнка з Вялікіх Пасечнікаў і стараста — Васіль Анішчук з Курашава. Насустрач ім выходзіць гаспадар дажынак. Стараста і старасціна ўручаюць гаспадару хлеб — сімвал сёлетніх плёнаў.

Падзякай за цяжкую працу пры вырошчванні плёнаў, пры жывёле і свінагадоўлі, якую складае гаспадар дажынак, заканчваецца абрадавая частка дажынак.

У артыстычнай частцы прымала ўдзел эстрада «Лявоніха».

*А. К.*

*фота аўтара*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПІРАГІ З ЯБЛЫКАМІ...

...або, як папулярна кажуць, «шарлотка», — адно з неабходных блюд на доўгі асенні перыяд. Яблыкі танныя, свежыя, добрыя, і трэба выкарыстаць іх як найбольш у штодзённым меню. Ну, пірог, вядома, прысмак даражэйшы, але прынамсі раз у тыдзень варта яго спячы, каб падняць настрой сваіх бліжніх, ды каб запахла ў хаце здаровай восенню і дабрабытам.

Найпрасцейшыя пірагі мы маем магчымасць пячы вельмі часта: яны і не многа каштуюць, і працы не вымагаюць шмат.

Дык каб выйшла вялікая бляха «шарлоткі», бярэм паўтары шклянкі дробнага цукру і расціраем яго з пачкай (250 г) масла (можна замест масла ўзяць маргарын, але найлепш будзе, калі мы возьмем палову масла, а палову маргарына — пірог будзе крухкі дзякуючы маргарыну, а пахнуць будзе маслам).

У добра расцертую, пушыстую масу дадаем 4—5 сырых яечак (у залежнасці ад іх велічыні) і расціраем далей. Цяпер дадаем шклянку смятаны і паступова ўсыпаем 4 шклянкі мукі і 2 чайныя лыжачкі парашку для пячэння ці соды. Добра яшчэ было б дадаць ў цеста смажанай апельсінавай скуркі (як яе смажыць, каб была добрая і араматная, мы падавалі раней, калі падавалі рэцэпт на велікодны сырнік). У крайнім выпадку можна дадаць сцертай на тарцы лімоннай скуркі. Цеста доўга не замешваем, выліваем на бляху і ставім у духоўку. Пячэм каля паўгадзіны. За гэты час падрыхтоўваем яблыкі (кіслыя, найлепш «антонаўкі»). Мыем іх, абіраем і сціраем на тарцы для буракоў. Перасыпаем цукрам, дадаем крыху карыцы (цынамону) і выкладаем гэта на падпечаны паўгадзіны пірог. Ставім яшчэ раз у духоўку, цяпер мінут на 20.

Падаем пірог халодны.

Калі хочаце зрабіць вялікую прыемнасць для сваіх дзяцей, абавязкова зрабіце ім піражкі з яблыкамі. На 4 шклянкі мукі трэба ўзяць пачку масла або маргарына, шклянку смятаны і 4—5 дэкаў (40—50 г) дражджэй. Муку трэба пасячы з тлушчам, а дрожджы размяшаць у смятане. Дадаць смятану з дражджамі да мукі, а акрамя гэтага яшчэ крыху лімоннай скуркі, сцёртай на тарцы (сціраем толькі жоўтую частку). Замясіць цеста. Раскачаць яго на таўшчыню 0,5 см на пасыпанай мукою дошцы ці стале, парэзаць на квадраты. Яблыкі абабраць, парэзаць на 8 частак (выняўшы сярэдзіну), пасыпаць цукрам. На квадратах палажыць кавалкі яблыкаў, заляпіць цеста, каб атрымаліся піражкі і палажыць іх на змазанай тлушчам бляшцы. Пячы ў духоўцы, пакуль не стануць румяныя. Выняўшы піражкі з духоўкі, пасыпаць іх цукровай пудрай.

Прыемнага апетыту!

*Гаспадыня*

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

### ЯКІМ БАЧЫЦЬ СВЕТ САБАКА?



Усю разнастайнасць колераў можна раздзяліць на дзве групы: колеры ахраматычныя, г.зн. «бясколерныя», і храматычныя, якія маюць пэўны колеравы тон.

У сабакі няма колеравага зроку. Ён бачыць акружаючы свет толькі чорнабелым. Паспрабуйце навучыць сабаку адшукаць каляровы квадрат сярод мноства белых, шэрых і чорных квадратаў. Нічога ў вас не атрымаецца. А сабакі лёгка паддаюцца дрэсіроўцы. Іх можна навучыць адрозніваць кругі і квадраты. А пасля доўгай трэніроўкі сабака можа заўважыць розніцу паміж кругам і эліпсам з адносінай паўвосей 9:8. Вельмі развіта ў сабак адчувальнасць да руху прадметаў. Яны заўважаюць найменшы рух рук, непрыкметны для чалавечага вока.

Значна слабей развіты ў сабак бінакулярны зрок, — здольнасць бачыць прадмет адным і другім вокам адначасова. Таму сабаку цяжка вызначыць аб'ём прадметаў і адлегласць да іх. Сабака наогул блізарукі, ён бачыць не далей 600 метраў. Гэта звязана з асаблівасцямі яго вачэй.

Чым жа вока сабакі адрозніваецца ад вока чалавека? Чаму сабака не адрознівае колераў?

Асноўная прычына тоіцца ў будове сятчаткі вока. Сятчатка вока і чалавека і сабакі ўтварае паўсферу і складаецца з мноства рэцэптарных светаадчувальных клетак, якія называюць дзякуючы іх форме палачкамі і колбачкамі. Паводле падлікаў, у воку чалавека маецца каля 125 мільёнаў палачак і 6,5 мільёна колбачак. Светаадчувальныя клеткі знаходзяцца ў заднім слаі сятчаткі, і, каб дайсці да іх, святло павінна прайсці праз некалькі слаёў нервовых клетак.

У сярэдняй вобласці сятчаткі знаходзіцца ўчастак найбольшай вастрыні зроку, ён атрымаў назву жоўтай плямы. Іменна тут сканцэнтравана асноўная маса светаадчувальных колбачак, якія адказваюць за «дзённы» зрок (зрок пры яркім святле) і, што самае цікавае, за каляровы зрок.

Пытанне аб колераадчуванні было ўпершыню пастаўлена М. В. Ламаносавым. Абапіраючыся на класічныя даследаванні Ньютона аб асноўных і змешаных колерах светавога спектра, Ламаносаў меркаваў, што наша вока ўспрымае толькі тры асноўныя колеры, бо пры пэўным іх спалучэнні атрымліваюцца ўсе прамежкавыя колеры. Так узнікла найбольш распаўсюджаная да гэтага часу трохкампанентная тэорыя каляровага зроку.

Сучасныя даныя псіхалагічных доследаў пацвердзілі тэорыю Ламаносава. За ўспрыняцце колеру ў сетчатцы вока адказваюць колбачкі. Удалося выявіць тры розныя тыпы колбачак, якія рэагуюць адпаведна на сіні, зялёны і чырвоны колеры.

Каляровым зрокам, акрамя чалавека, валодаюць толькі малпы. У іншых млекакормячых ён або знаходзіцца ў зародкавай форме, або зусім адсутнічае.

Зрок сабакі моцна адрозніваецца ад зроку чалавека. Сабакі паходзяць ад змрочных драпежнікаў (бачна, ад ваўка), а, як вядома, у начных і змрочных жывёлін сятчатка складаецца пераважна з палачак. Гэтую асаблівасць продкаў атрымалі ў спадчыну сабакі. У іх у адрозненне ад чалавека няма жоўтай плямы, а значыць, няма і асноўнай масы колбачак, якія ўспрымаюць колеры.



## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### БЕРЛІНСКІ ПАРК

Берлінскі парк Трэптоў — вялікі камбінат гульняў і адпачынку. Чортавыя млыны, касмічныя караблі, самаходы — скутары, каруселі круцяцца штодзённа да позніх вячэрніх гадзін. Прагаладаўшыхся прымае кулінарны комплекс са спецыяльнасцямі рускай, балгарскай, венгерскай, польскай і, зразумела, нямецкай кухняў. На здымку: пакацістая коўзанка — адна са шматлікіх атракцыёнаў Трэптова.



### РЫБЫ — РЫБАЛОВЫ

У марскіх глыбінях, дзе пануе вечная ноч, арудуюць рыбы-рыбаловы. Яны аснашчаны доўгімі «вудамі», кончыкі якіх свецяцца. Рыбінка, падплыўшы да кончыка «вуды», які свеціцца, пападае ў пашчу рыбалова. Займаюцца гэтым толькі самкі. Самцы ж, вельмі маленькія ў параўнанні з самкай, вядуць паразітычнае жыццё: падплыўшы да сваёй «выбраніцы», самец прырастае да яе так, што іх крываносныя сістэмы змыкаюцца і ўтрыманцу паступаюць ад сяброўкі пажыўныя рэчывы.

### ПАЯДЫНАК ПТУШКІ СА ЗМЯЁЙ

Мексіканская знішчальніца ядавітых змей роуд-ране, што азначае «дарожны бягун», імчыцца па сцежках на доўгіх, моцных і тонкіх нагах. Убачыўшы змяю, яна спыняецца, прысядае, шырока растапырыўшы крылы, нібы рыхтуецца да прыжка.

Змяя злосна шыпіць і, выбраўшы падыходзячы момант, першай накідваецца на птушку. Але тая спрытна ўхіляецца. Змяя нападае зноў і зноў, а птушка, нібы дражнячы праціўніка, падстаўляе пер'е то крыла, то хваста. І калі змяя, знясіленая дарэмнымі кідкамі, спрабуе выслізнуць, у нападзенне пераходзіць птушка. Моцнай, вострай дзюбай яна б'е змяю па галаве, аглушае, ламае ёй шыйныя пазванкі і, адкінуўшы яе галаву, з'ядае.

### ЗАМЕЖНУЮ МОВУ ЗА ТРОЕ СУТАК!

Калі верыць сцвярджэнню «міжнароднай арганізацыі сінектыкі», распрацавана «сілавая» методыка імклівага вучэння любой замежнай мовы. Спецыялісты-мовазнаўцы гутарылі з тымі, хто авалодаў іспанскай мовай за сесію, якая працягвалася 61 гадзіну, — без перапынкаў для адпачынку, сну і прыёму ежы. Метад заснаван на тэорыі, што мозг чалавека ў стадыі моцнай стомленасці здольны ўспрыняць вялікую колькасць інфармацыі, калі інфармацыя гэта паступае бесперапынна.

## АДЫСЕЙ З БЕЛАЙ-РУСІ

7 кастрычніка 1852 года з Кранштата ў падарожжа вакол свету адправіўся фрэгат «Палада». Напярэдадні адплыцця сам імператар Мікалай II наведаў фрэгат і выказаў надзею, што місія, ускладзеная на яго падданых, будзе з гонарам выканана. Рускае ваеннае судна накіроўвалася да берагоў далёкай Японіі, каб заключыць з краінай узыходзячага сонца першае гандлёвае пагадненне.

Праз некалькі год плаванне «Палады» апіша яго ўдзельнік рускі пісьменнік Іван Ганчароў, які быў узяты на фрэгат у якасці сакратара віцэ-адмірала Пуцяціна, узначаліўшага экспедыцыю. Акрамя Ганчарова, на борце ваеннага судна знаходзіўся яшчэ адзін цывільны — драгаман (перакладчык) Іосіф Гашкевіч.

Дзіцячыя гады Іосіф правёў пад Мінскам, вучыўся дома. Бацька быў адзіным настаўнікам царкоўна-прыходской школы. Калі Іосіфу споўнілася дваццаць год, яго, як і старэйшага брата Івана, вырашылі аддаць у Мінскую духоўную семінарыю. У хлопчыка былі незвычайныя здольнасці.

У 1839 годзе Гашкевіч у складзе расійскай духоўнай місіі адпраўляецца ў Кітай. Знаходзячыся ў Пекіне, ён вывучаў кітайскую мову, гісторыю краіны, літаратуру, мастацтва, філасофію, займаўся астраноміяй, батанікай.

...У пачатку сакавіка 1853 года «Палада» кінула якар ля берагоў Паўднёвай Афрыкі. Яшчэ ні адзін рускі падарожнік не трапляў далей наваколля Капштата. У час стаянкі «Палады» была арганізавана экспедыцыя ўглыб кантынента. У ліку сямі яе ўдзельнікаў І. Гашкевіч рабіў геалагічныя даследаванні і склаў прыкладную карту ад Капштата да ракі Аранжавай, зрабіў гербарый, адшукаў шкілеты выкапнёвых жывёлін Паўднёвай Афрыкі.

І зноў у далёкі і небяспечны шлях. Бура ў Індыйскім акіяне моцна пашкодзіла «Паладу». Фрэгат знаходзіўся ў такім стане, што Пуцяцін вымушаны быў прасіць выслаць яму на змену толькі што пабудаваны фрэгат «Дзіана». Аднак пакуль «Палада» працягвала плаванне і хутка дасягнула берагоў Японіі.

Пачаліся перагаворы, якія працягваліся больш года. У жніўні прыбыла «Дзіана», на якую былі пераведзены асобы, патрэбныя для выканання дыпламатычнай місіі. Нарэшце, 26 студзеня 1855 года ў японскім горадзе Сімода быў падпісаны гандлёвы трактат.

Перагаворы падыходзілі к канцу, калі на ўзбярэжжа абрушылася землетрасенне велізарнай сілы. Сімода, які налічваў больш тысячы будынкаў, быў пераўтвораны ў руіны. Ля ўвахода ў заліў Хеда затануў фрэгат «Дзіана». Каманду і рыштунак удалося перавезці на бераг.

Становішча рускіх маракоў, якія пацярпелі караблекрушэнне, ускладнялася тым, што ў самым разгары была Крымская вайна. Англійскія і французскія ваенныя судны баразнілі Ахоцкае і Японскае моры. Японія не мела свайго флоту. Заставалася надзея на гандлёвыя караблі нейтральных краін, з дапамогай якіх можна было б дабрацца да далёкаўсходняга ўзбярэжжа. А пакуль рускія маракі прыступілі да будаўніцтва парусной шхуны. 14 сакавіка 1855 года шхуна «Хеда», першае вялікае судна, пабудаванае ў Японіі, была спушчана на ваду. На ёй віцэ-адмірал Пуцяцін з часткай каманды дабраўся да Петрапаўлаўска.

У чэрвені астатніх рускіх, у іх ліку і Гашкевіча, узяла брэменская шхуна «Грэта». Але яшчэ не ўсе перашкоды вычарпаў лёс: «Грэту» ў Ахоцкім моры перахапіла англійскае судна «Баракот», і рускія маракі трапілі ў палон. Капітан Стырлінг прывёз сваю «ваенную здабычу» ў Ганконг.

Толькі ў канцы 1855 года закончылася трохгадовая адысея сына Белай Русі, за час якой ён пабываў у Брытаніі, на востраве Мадэйра, на мысе Добрай Надзеі, у Індыйскім акіяне, у Сінгапуры і Ганконгу, на астравах Бонін-Сіма, у Нагасакі і Шанхаі, на Лікейскіх астравах, у Ціхім акіяне, у Ахоцкім моры, каля ўсходніх берагоў Расіі, у Карэі і зноў у Японіі.

Вярнуўшыся на радзіму, Іосіф Антонавіч прыступіў да работы над японска-рускім слоўнікам. Ён ускладаў на сябе вялікую адказнасць: вучоныя-сінолагі, дыпламаты, будучыя студэнты, выдавец павінны браць на павер усё тое, што зрабіў Гашкевіч, бо ён пакуль што быў адзіным чалавекам у Расіі, які ведаў японскую мову.

У 1857 годзе слоўнік выйшаў у свет. За гэту працу І. Гашкевіч быў удасто-

# ТРЫБУНА чытачоў

### НЯМА ЎГНАЕННЯЎ

Як інфармавала прэса, радыё, тэлебачанне і ўлады, у ліпені і жніўні была на 15% зніжана цана мінеральных угнаенняў. Але што з гэтай зніжкі, калі ўгнаенняў няма дзе купіць. У ваколіцы Шудзялова проста разрывалі сяляне кожны вагон суперфасфату. Увесь час было яго замала. Ужо наступіла пара сяўбы жыта, і далей няма пад дастаткам суперфасфату і амонавай салетры. Амонавай салетры адчуваецца недахоп на працягу ўсяго 1970 года. Гаспадары нашых вёсак злуюцца, што няма якраз тых мінеральных угнаенняў, якія найбольш сялянам патрэбныя.

*А. С.*
*Сакольскі павет*

### СОЛТЫС З АЛЕКСІЧ І ЯГО ЖОНКА

Уладзіслаў Івановіч з'яўляецца солтысам Алексіч (ГРН Заблудаў), членам ЗСЛь, перадавым гаспадаром. Цешыцца ён пашанай сярод аднавяскоўцаў. Дзякуючы добрай працы солтыса, жыхары Алексіч выканалі план пакупкі мінеральных угнаенняў у 122% і займаюць другое месца ў грамадзе.

Уладзіслаў Івановіч прыкладна вядзе гаспадарку. Мае свае сельскагаспадарчыя машыны: як сеўнікі, касілку і іншыя. Яго жонка Марыя кіруе 16-асабовым гуртком вясковых гаспадынь і карыстаецца вялікім паважаннем. КВГ у Алексічах прымала ўдзел у конкурсе на вырошчванне агародніны. Плады, якія гэты гурток выгадаваў (агуркі, гарбузы, цыбуля, бручка) выстаўляліся на сельскагаспадарчай выстаўцы ў час дажынак у Заблудове. Марыя Івановіч была старасцінаю сёлетніх раённых дажынак.

*Я. Цялушэцкі*



*Уладзіслаў Івановіч.*
*Фота: Фёдар Гулай*

ены Дзямідаўскай прэміі і залатога медалю. Казанскі універсітэт прыслаў яму запрашэнне заняць пасаду прафесара кафедры японскай мовы, якую намячалася стварыць. Але Іосіфа Антонавіча чакала іншая работа — яго прызначылі першым рускім консулам у Японіі.

На працягу сямі год здольны дыпламат разумна і тактоўна прадстаўляў інтарэсы сваёй Айчыны ў Японіі і змог наладзіць здавальняючыя адносіны паміж гэтымі дзвюма краінамі.

У 1865 годзе ў выніку крызісу ў японскім урадзе Расія вымушана была адклікаць свайго консула з Хакадатэ.

А ў 1867 годзе Іосіф Антонавіч назаўсёды пакінуў Пецярбург і пасяліўся ў невялікім маёнтку Малі ў прадмесці Вільні. Памёр І. Гашкевіч у 1875 годзе.

Аб нашым славутым земляку, які тройчы пад ветразямі абышоў зямны шар і першым з расійскіх вучоных-падарожнікаў пабываў у Паўднёвай Афрыцы, аўтару першага японска-рускага слоўніка, валодаўшаму 13 мовамі, першаму рускаму консулу ў Японіі, чалавеку, імем якога названы заліў у Японскім моры, расказвае кніга Віталія Гузанава «Адысей з Белай Русі», якая выйшла ў мінулым годзе ў выдавецтве «Беларусь».

*Т. Рэутовіч*

### УЗРАСТАЕ КОЛЬКАСЦЬ СЕЛЬГАСГУРТКОЎ

На Гайнаўшчыне штогод павялічваецца колькасць сельскагаспадарчых гурткоў і іх членаў. Калі ў мінулым годзе налічвалася тут 116 сельскагаспадарчых гурткоў з 3919 членамі, дык у гэтым годзе лік гурткоў узрос да 123, а лік членаў да 4112. Усе сельскагаспадарчыя гурткі маюць у сваім распараджэнні 283 трактары і 173 абмалотачныя агрэгаты. Вартасць маёмасці сельскагаспадарчых гурткоў складае суму 55 мільёнаў 35 тысяч злотых.

*Ц. Я.*

### ХРЫСЦІНЫ Ў ГРН

Дзень 29 кастрычніка 1967 года ў ГРН Храбалы быў выключным, пасвойму гістарычным. У гэты дзень адбывалася сесія ГРН, на якой была пастаўлена многа цікавых праблем. Але не аб гэтым хачу пісаць. У гэты дзень упершыню ў Беластоцкім ваяводстве ў бюро стану цывільнага ў ГРН Храбалы адбылося ўрачыстае наданне імя növанароджанаму. Дзяўчынка атрымала імя Валя. Была яна з Плёсак, Уладзіміра Кас'янюка. Цырымонія адбылася ў прысутнасці радных усёй грамады. Прыйшлі таксама школьнікі з Райска з кветкамі. Уручаліся дробныя падарункі, складаліся пажаданні, іграла спецыяльная магнетафонная плёнка, а кіраўнік бюро стану цывільнага Нюра Мінкевіч пасля цырымоніі выступіла з прамоваю. Бацька дзіцяці быў так узрушаны ўрачыстым настроем, што набег па гарэлку, і ўсе выпілі па чарцы за здароўе 18-днёвай Валечкі.

Ад гэтага памятнага дня Нюра Мінкевіч «ахрысціла» ўжо 87 дзяцей. Адбываецца гэта заўсёды ў нядзелю і заўсёды ўрачыста.

(хм)




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 21 год. Паўгода таму назад я выйшла замуж. Мы цяпер жывем у павятовым горадзе. Мужа майго пазнала я ў сваёй сяброўкі, і неўзабаве мы пажаніліся. Я не ведала нічога канкрэтнага аб ім, а перш за ўсё не ведала, што ён вельмі любіць гарэлку. Два месяцы пасля шлюбу было нядрэнна, а потым пачалося ў хаце «пекла». Цяпер гэта штодзённа: муж прыходзіць п'яны дахаты, валіцца на падлогу і спіць. Часам нават пачынае лаяцца. Тады я ўцякаю да суседкі, а ён пакрычыць, а потым засне. Толькі тады я вяртаюся ў хату. Бацькі мае жывуць у вёсцы адны, бо брат мой атрымаў вышэйшую адукацыю і працуе ў Варшаве. Я маю толькі пачатковую школу. Бацькі намаўлялі Пецю (майго мужа), каб мы вярнуліся на вёску, але ён не хоча, хоць таксама мае толькі пачатковую школу. Зрэшты, на вёсцы няма вызначаных гадзін працы, а трэба ж цэлы дзень працаваць, а тут ёсць час і выпіць. Я цяпер цяжарная, часта бываю ў шпіталі і наогул павінна быць пад доглядам лекара. Не ведаю, што мне цяпер рабіць: ці вярнуцца да бацькоў, ці мо чакаць якой перамены, але якой? Бацькі мне раяць, каб я гэтыя пару месяцаў яшчэ пабыла тут, а потым, калі нараджу дзіця, мо Пеця зменіцца? Парай, Сэрцайка, ці цяпер мне адыйсці ад Пеці, ці пачакаць як раяць бацькі. Чакаю тваёй парады.

*Аня з Беласточчыны*

Аня! Гэта ўсё — вынік тваёй пахопнай дэцызіі. І не толькі тваёй, бо многа ж дзяўчат так нераздумана, не знаючы хлопца, рашаецца на шлюб. А потым? Што ж, потым прыходзяць роздумы, толькі ўжо позна. Трудна мне, Аня, паверыць у тое, што нараджэнне дзіцяці зменіць паступкі твайго мужа. Многія жонкі ў гэтым пераканаліся. Другая твая памылка — гэта тое, што ты вырашыла нарадзіць дзіця. Аднак цяпер трэба табе думаць ужо не толькі аб сабе, але і аб дзіцяці. Здаецца мне, што бацькі твае маюць тут рацыю, бо, хоць цяжка паверыць ў перамену, аднак паспрабаваць можна, а тым больш, што ты мусіш быць пад апекай лекара, што на вёсцы (калі няма пункта аховы здароўя) камплікуе справу. Таму і я раю табе пачакаць.

*Сэрцайка*

### МЛЫН І ЯГО КІРАЎНІК

Млын у Міхалове (Беластоцкі павет) пачаў працу ў 1948 годзе. У суткі можа ён змалоць 24 тоны збожжа. У мінулым годзе змелена тут 1637 тон збожжа, у тым ліку 858 тон жыта, 56 тон пшаніцы, 11 тон ячменю і іншага збожжа.

За мяленне сяляне заплацілі ў мінулым годзе 309 тысяч злотых.

Кіраўніком млына ўвесь час з'яўляецца Антон Саковіч, які заўсёды ветлівы ў адносінах да кліентаў і добра выконвае свае абавязкі.

*Янцал*

### У ПІРАЖКАХ

Пасля камасацыі ў Піражках (Сакольскі павет) засталося 300 гектараў зямлі, якой не было каму апрацоўваць. Раней, калі зямля была ў палосках, частку яе на «дзіка» пасціху абраблялі людзі, нікому нічога за гэта не плаціўшы. Але пасля камасацыі, калі гэтая зямля была ўжо ў адным кавалку, узяўся за яе апрацоўку мясцовы сельскагаспадарчы гурток. Арганізаваў ён калектыў апрацоўкі зямлі («Зэспул управы зemi») і восенню 1969 года засеяў 60 га жыта, а вясною бягучага года 60 га аўса, 10 га грэчкі і 10 га лубіну. Павятовыя ўлады прыдзялілі ім два трактары і два камбайны. Камбайны ў нашай ваколіцы выклікалі вялікую сенсацыю. Не бачылі камбайнаў у нас людзі і вельмі цікавіліся, як гэтыя машыны працуюць. Ураджай быў добры і жыта і аўса. З аднаго гектара камбайн намалочваў ад 16 да 18 цэнтнераў. Як паінфармаваў старшыня калектыву апрацоўкі зямлі Уладзімір Малішэўскі, у гэтым годзе павялічылі піражкоўцы абшар зямлі пад засевы азімага жыта.

*А. С. Сакольскі павет*

### У ШКОЛЕ Ў ЧАРАЎКАХ

Кіраўніком пачатковай школы ў Чараўках (Беластоцкі павет) з'яўляецца Янка Трахімчук. Вучыцца тут 82-ое дзяцей. Вучні пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў задбалі аб тым, каб у школе было чыста і ўтульна. Сцены тут абабіты лямпэрыяй з пільснёвых пліт, на вокнах поўна прыгожых кветак, на сценах актуальныя насценгазеты. Кіраўнік Янка Трахімчук вядзе ў школе, між іншым, практычныя заняткі. Вучні VII і VIII класаў пад яго кіраўніцтвам самі ладзяць усё тое, што паламаецца, сапсуецца. Вырамантавалі яны 8 санак, зрабілі некалькі кошаў на смецце і г.д.

Актыўна дзейнічае тут гарцэрская арганізацыя, якой апякуецца настаўніца Леантына Кавальчук. Гарцэры зімою падкормлівалі звяроў, удзельнічалі ў акцыі нялагернага лета. У рамках гэтай акцыі апекаваліся школьным агародчыкам з кветкамі і агароднінай, пільнавалі малых дзяцей у бацькоў, якія ішлі працаваць на цэлы дзень у поле, дапамагалі звозіць авёс пажылым жыхарам Чараўкоў, арганізавалі акцыю «Нябачнай рукі» пры ўборцы жыта.

*Я. Нарэўскі*

### АКТЫВІСТ З ГАНЧАРОЎ

Віктар Апуннік вядомы ў грамадзе Ялоўка (Беластоцкі павет) як добры гаспадар і грамадскі актывіст. Гаспадарыць ён на 6-гектаровай гаспадарцы ў Ганчарах, намагаецца механізаваць усе палявыя працы, гадуе дзве каровы і 10 штук свіней. У тэрмін здае абавязковыя пастаўкі. Ужо тры гады вядзе доследныя палеткі з жытам, а таксама з рознымі гатункамі траў. Ужо пяты раз з'яўляецца ён солтысам. Дзякуючы яго намаганням, усе гаспадары вёскі Ганчары актыўна ўдзельнічаюць у выкананні грамадскіх чынаў пры пасадцы дрэў, пабудове дарог, пабудове агароджы на могілках загінуўшых тут савецкіх воінаў. У далейшым жыхары Ганчароў хочуць пабудаваць стражацкую рамізу і краму, а перад вёскаю патрэбны мосцік. Нядаўна Віктара Апунніка паўторна выбралі старшынёю мясцовага 12-асабовага гуртка ЗМВ, а таксама членам грамадскага камітэта ПАРП.

Віктар Апуннік многа чытае. У яго знаходзіцца ўжо 12 год бібліятэчны пункт, якім карыстаецца каля 50 асоб.

*Янка Нарэўскі*



*Вясковы таварны дом у Дуброве.*
*Фота Цаф — Сянько*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**
„Śpiewa Ywes Montand" (radz.), 6—7. „Grzech Azizy" (ZRA), 8—9. „Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), 10—11.

**ДУБІНЫ**
„Każdemu swoje" (radz.), „Paragon gola" (polski), 10—11.

**НАРАЎКА**
„Tajemniczy mnich" (radz.), „Śmierć Indianina" (rumuński), 7—11.

**НАРВА**
„Za frontem" (rumuński), „Kobieta wąż" (angl.), 7—11.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**
„Toast" (polski), „Przygoda z piosenką" (polski), 7—11.

**АРЭШКАВА**
„Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), „Październik, — 10 dni które wstrząsnęły światem" (radz.), 10—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**
„Grawitacja" (jugosł.), „Szczęśliwy Aleksander" (franc.), 7—11.

**ОРЛЯ**
„Lew pręży się do skoku" (węgierski), „Przygody Tomka Sayera" (rumuński), 7—11.

**РАЙСК**
„Topkapi" (USA), „Więzy" (czeski), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**
„Pingwin" (polski), 6—7. „Daleko od słońca" (jugosł.), 8—9. „Marysia i Napoleon" (polski), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**
„Biały niedźwiedź" (polski), 6—7.. „Człowiek bez paszportu" (radz.), 8—9. „Bestia" (węgierski), 10—11.

**ЯНАЎ**
„Sól ziemi czarnej" (polski), 7—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**
„Dziesięciu małych Indian" (angl.), 6—7. „Dzwony dla bosych" (czeski), 8—9. „Szkice warszawskie" (polski), 10—11.

**МЕЛЬНІК**
„Ostatni lot" (radz.), 6—7. „Na pomoc" (angl.), 8—9. „Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), 10—11.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**
„Pamiętnik pani doktór" (franc.), 6—7. „Testament gangstera" (franc.), 8—9. „Nie smuć się" (radz.), 10—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**
„Profesor zbrodni" (węgierski), „Banda Asa Kier" (radz.), 7—11.

**НОВЫ ДВОР**
„Stawka większa niż życie" (polski), 10—11.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5923 W—3

